

У нумары: ГЭТА БЫЛО Ў БЕЛАСТОКУ — РЭЧАІСНАСЦЬ І МАРЫ — З ПЕРАЖЫТАГА І ПРЫЗАБЫТАГА


# Ніва

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 29 (386) | ГОД VIII | 21 ЛІПЕНЯ 1963 ГОДА | ЦАНА 60 ГР.


Фота: К-ЛЕС



## МАГУТНЫ ПОСТУП

19 год таму назад 22 ліпеня 1944 года ў Хэлме Польскі камітэт нацыянальнага вызвалення абвесціў гістарычны маніфест утварэння ўлады працоўных мас. У першых вызваленых ад гітлераўцаў раёнах Польшчы пачала ўтварацца дзяржава справядлівага нацыянальнага і сацыяльнага ладу. Аб такой менавіта дзяржаве дзесяткі год марылі і змагаліся працоўныя Польшчы.

Ад першых дзён народнай улады разам з польскім народам беларускае насельніцтва ўключаецца ў барацьбу за ўмацаванне яе. Уключаецца да адбудовы разбуранай гаспадаркі. Сотні беларусаў аддае сваё жыццё ў барацьбе з рэакцыйным падполлем.

Ішлі гады, а разам з імі развівалася, мужнела наша краіна. Яна будавала заводы і павялічвала іх прадукцыю, дабівалася лепшых ураджаяў на палях, духоўна ўзбагачваўся народ. Прыгажэла таксама Беласточчына, а ў ёй і беларускія вёскі, прыгажэў горад Беласток і многія мястэчкі. Прыемна адзначыць, што ў гэтых усіх дасягненнях ёсць значны ўклад беларускага насельніцтва, з якога вялікая частка згуртавана ў радах БГКТ.

Нядаўна адбыўся IV З'езд Беларускага грамадска-культурнага таварыства, які падсумаваў вялікія дасягненні БГКТ і накрэсліў напрамкі далейшай дзейнасці.

Агульна сцвярджаецца, што БГКТ мае не малы ўплыў на беларускае насельніцтва. Маецца на думцы перш за ўсё часопіс «Ніву», радыёперадачы на беларускай мове, шырока разгарнуўшыся аматарскі рух, навучанне беларускай мовы, канцэрты эстрады «Лявоніхі», лектарскую групу ГП, культурна-асветную дзейнасць гурткоў БГКТ і г.д. Але мы не можам супакоіцца на дасягнутым. Трэба намагацца, каб яшчэ вышэй узрасла ранга БГКТ, каб было яно масавай, вялікай культурна - асветнай арганізацыяй, якая здольна была б пацягнуць за сабою масы, каб выхаваўчы ўплыў яе значна ўзрос. Да гэтага забавязвае нас XIII Пленум ЦК ПАРП, якое абмяркоўвала ідэалагічную працу нашай партыі. Трэба нам лепш працаваць, каб наступную гадавіну Адраджэння Польшчы сустракалі мы з большымі дасягненнямі.

м.х.

**З нагоды 19 гадавіны Адраджэння Польшчы членам, сімпатыкам БГКТ і чытачам „НІВЫ" шлем святочныя прывітанні і найлепшыя пажаданні.**

**ГП БГКТ і РЭДАКЦЫЯ „НІВЫ"**

## РОДНЫЯ КРАЯВІДЫ



Святочны настрой у вёсцы Альхоўка (Гайнаўшчына)

Фота: В. Млыньчык

ЯЗЭП ЗАЗЕКА

## ГЭТА БЫЛО Ў БЕЛАСТОКУ

**(урывак з аповесці «Далёка ад Радзімы»)**

**Нарыс аб тых цяжкіх, але мужных днях савецка-польскай садружнасці напісаны на архіўным матэрыяле і паводле ўспамінаў таварышаў па сумеснай барацьбе ў Беластоцкім партызанскім злучэнні.**

**У канцы ліпеня 1941 года ў Беластоку была ўтворана падпольная антыфашысцкая арганізацыя, куды ўваходзілі палякі, беларусы, рускія, грузіны. Падпольны цэнтр разгарнуў актыўную баявую дзейнасць на тэрыторыі Польшчы і Беларусі.**

**Падпольшчыкі стваралі сур'ёзныя перашкоды германскаму камандванню на ўсходзе ў забеспячэнні фронту і перамяшчэнні войск на тэрыторыі Польшчы і Беларусі. Дружба польскага і савецкага народаў замацавана крывёю ў гады вайны.**

I.

Ліпень 1941 года падыходзіў к канцу. На шостым кіламетры ад Беластока, у доме чыгуначніка Зігмунта Мартавіцкага, сабраліся падпольшчыкі. Домік стаяў асабняком, каля пералеску, які цягнуўся вузка-доўгай градою ўздоўж чыгункі. Падпольшчыкам прыходзілася захоўваць усе правілы канспірацыі. Якія б ні былі строгія меры гітлераўскіх улад у перамяшчэнні, аднак на сход прышло 28 чалавек.

Было гэта ў суботу. Сонца ўжо схілялася к захаду і спякота спала. Неба было чыстае і яснае. Яно палала, мянялася ў чырвань і сінь. Лёгкі сухі ветрык ласкава і пяшчотна дакранаўся да лясоў і палёў. Тады густое высокае жыта хадзіла хвалямі, калоссе шапацела жоўтымі грывамі, злёгку кланялася, а потым выраўноўвалася і рабілася роўнае колас да коласа.

У гэты вячэрні час грузавік на поўным ходзе звярнуў з шашы і хутка паімчаўся былтанымі абходнымі дарогамі, цераз хмызнякі і іржаное поле. Яшчэ грузавік не паспеў затрымацца, як з яго саскочыў Пётр Мікітыч Найдзенка. Грузавік адразу ж завярнуўся і пайшоў назад у горад. Пётр Мікітыч пастаяў на адным месцы, агледзеўся кругом і пайшоў сцяжынкаю ў бок пералеску.

Сонца, ужо чырвонае, схілялася ўсё ніжэй да захаду. Надыходзіў вечар, росны, вельмі цёплы. У жыце паспешна і адрывіста крычалі перапёлкі. У адказ з далёкіх лугоў даносіўся крык драча.

Хутка зусім сцямнела, толькі неба яшчэ свяцілася, на захадзе дагарала вячэрняя зорка. Дзіўны настрой найшоў на Пятра Мікітыча. На душы ў яго было лёгка і ясна, як у гэты чысты летні вечар. Невялікі домік Зігмунта Мартавіцкага хаваўся ў густым садзе. Надыходзячы вечар заштрыхаваў прасветы паміж дрэвамі. Агародам, асцярожна, па-паляўнічаму ступаючы збіраліся падпольшчыкі. Каля дзвярэй дома і вокан мільгалі цені, людзі шэптам называлі паролі і заходзілі ў дом.

(Працяг на стар. 3)

# КПСС аб разыходжаннях

14 ліпеня ў Маскве апублікавана адкрыты ліст ЦК КПСС да ўсіх партыйных арганізацый і ўсіх камітэтаў Савецкага Саюза. Ліст прадстаўляе сабой адказ на пісьмо ЦК Камуністычнай партыі Кітая з 14 чэрвеня бягучага года, а таксама выказвае становішча КПСС адносна найбольш важных праблемаў сусветнага камуністычнага руху.

Не з'яўляецца таямніцай, што ад нейкага часу паміж КПК з аднаго боку, а КПСС і іншымі камуністычнымі партыямі з другога боку выявіліся сур'ёзныя разыходжанні. Гэтыя разыходжанні ў апошні час яшчэ больш абвастрыліся не гледзячы на атрыманае паразуменне ў справе сустрэчы прадстаўнікоў абодзвюх партый. ЦК КПК не перастаў адкрытай палемікі, якая аднабакова інтэрпрэтуе Дэкларацыю з 1957 года і Заяву з 1960 г. прынятых усім сусветным камуністычным рухам.

Якіх жа праблемаў датычыць спрэчка? «У цэнтры спрэчкі, — чытаем у лісце ЦК КПСС, — знаходзяцца праблемы, якія непасрэдна датычаць інтарэсаў усіх народаў, а менавіта праблемы вайны і міру, праблемы ролі і развіцця сусветнай сацыялістычнай сістэмы, праблемы барацьбы супроць ідэалогіі і практыцы «культа адзінкі», праблемы стратэгіі і тактыкі сусветнага рабочага руху і нацыянальна-вызваленчай барацьбы.

Дакументы сусветнага рабочага руху як першапланавую задачу камуністаў выдзяляюць барацьбу супроць нуклеарнай катастрофе, барацьбу за мір.

Магчымасць утрымання міру выплывае сёння не з нейкіх там перамен характару імперыялізму, але з факту, што сілы сацыялізма сёння так вялікія, што могуць накінуць ваенным кругам мір. Урэшце, звяртае на гэта ўвагу ліст ЦК КПСС, неабходнасць барацьбы за мір выплывае з таго, што «створанае ў палавіне нашага стагоддзя ракета-ядзернае ўззбраенне пераяніла даўнейшае ўяўленне аб вайне і таму камуністы абавязаны гаварыць народам усю праўду аб кансеквенцыях тэрма-ядзернай вайны». Кіраўніцтва КПК мае на гэтую справу іншы погляд. Ліст КПСС падае некаторыя кітайскія тэзісы: «вайны не можна прадухіліць пакуль існуе імперыялізм; мірнае суіснаванне — гэта ілюзія; барацьба за мір перашкаджае рэвалюцыйнай барацьбе».

«Гэтыя тэзісы азначаюць, — сцвярджае ліст КПСС, — што кітайскія таварышы выступаюць супроць супольнай палітычнай лініі сусветнага камуністычнага руху, калі разыходзіцца аб справы вайны і міру». Можна дайсці да вываду, што ў кітайскім становішчы не хапае веры ў сілу рабочага класа і магчымасці перамогі сацыялізма на цэлым свеце мірнай дарогай. Нельга таксама пагадзіцца са становішчам Кітая, што «на руінах ліквідаванага імперыялізму (або інакш кажучы ў выніку распалення вайны) пабудавана будзе святляная будучыня». Такі погляд не гуманітарны і не марксісцкі. Справа зводзіцца да таго, што як чытаем у лісце КПСС «калі імперыялізм навяжа вайну супроць нас, тады не ўздрыгнецца нам рука, каб прымяніць гэтае страшэннае аружжа супроць агрэсараў. Але калі нас не заатакуюць, не прыменім гэтага ўзбраення першымі». Вось такое становішча поўнасцю адказвае духу марксізма-ленінізма.

Калі разыходзіцца аб справы крытыкі культа адзінкі, то кітайскія таварышы выступаюць у ролі абаронцаў гэтага культа. Няўдзячная гэта роля, зважыўшы, што нават Сталін у словах адмаўляўся ад гэтай дробнамяшчанскай тэорыі. Асабліва важная тая частка лісту КПСС, у якой гаворыцца аб праблемах дарог пераходу чалавецтва да сацыялізма. Кітайцы закідаюць савецкім таварышам і другім партыям, што «забылі пра рэвалюцыю», а нават «баяцца яе», у той час, калі яны (кітайцы) за «сусветную рэвалюцыю».

«У сучасных умовах, — чытаем у лісце КПСС, — сацыялізм здабывае сэрца і думкі людзей не толькі дзякуючы сваім тэорыям, але перш за ўсё дзякуючы сваім чынам і добрым жывым прыкладам». Падзеі, якія адбыліся пасля II-ой сусветнай вайны, найлепш пацвярджаюць гэтыя тэзісы.

У заключэнні ліст КПСС падае некалькі прапаноў яшчэ раз фармуліруючы генеральную лінію дзеяння сусветнага камуністычнага руху. Гэта: неабходнасць злучэння ўсіх камуністычных і антыімперыялістычных сіл у барацьбе за перамогу сацыялізма на свеце; неабходнасць злучэння ўсіх сіл у барацьбе за мір; працягванне класавай барацьбы камуністычнымі і рабочымі партыямі капіталістычных краін у такіх формах, якія найбольш адпавядаюць умовам данай краіны; дапамога нацыянальна-вызваленчым рухам у антыкаланіяльнай барацьбе і стварэнне ўмоў да пераходу на некапіталістычную дарогу развіцця; стварэнне ўмоў супрацоўніцтва і дапамогі паміж сацыялістычнымі краінамі з мэтай асягнуць поўнае пралетарыяцкае адзінства.

**УЛ. ЛАЗІНСКІ**

З ПРАБЛЕМ 13 ПЛЕНУМА ПАРП

# За сацыялістычную свядомасць

Вельмі многа важных спраў звязаных з ідэалагічнай працай партыі абмяркоўваў XIII Пленум Польскай аб'яднанай рабочай партыі. Як вядома, пасля спрэчак Пленум пастанавіў прыняць даклад тав. Уладзіслава Гамулкі «Аб актуальных праблемах ідэалагічнай працы партыі» як дырэктывы партыі ў ідэалагічнай галіне.

Ідэалагічная праца партыі складаецца з дзвюх частак: з аднаго боку праз сваю практычную дзейнасць у нутры краіны і на міжнароднай арэне партыя прычыняецца да развіцця сацыялізма, уносіць свой уклад да сацыялістычнай тэорыі, да навукі марксізма-ленінізма. З другога боку партыя разгортвае прапагандова - выхаваўчую дзейнасць, мэтай якой з'яўляецца:

— азнаямленне працоўных мас з палітыкай партыі, намаганні аб падтрымцы гэтай палітыкі і актыўнае садзейнічанне працоўных мас у яе рэалізацыі;
— фармаванне сведамасці, поглядаў, стылю жыцця працоўных мас у духу асноў сацыялізма.

Развіццю сацыялістычнай сведамасці і росту падтрымкі мас для палітыкі партыі спрыяе сёння развіццё нашай краіны. Ход сучаснай гісторыі прызнае для сацыялізма ўсё новыя і новыя відавочныя рацыі.

Краіны, у якіх перамог або перамагае сацыялізм, развіваюцца ў вельмі хуткім тэмпе. На працягу мінулага дзесяцігоддзя ў еўрапейскіх сацыялістычных краінах прырост прамысловай прадукцыі на галаву насельніцтва складаў 165 працэнтаў, у апошніх краінах Еўропы толькі ў 66 працэнтах, значыць у 2,5 раза менш. Як падкрэсліў тав. Ул. Гамулка: «савецкая прамысловая прадукцыя на працягу найбліжэйшых 10—12 год дасягне памераў амерыканскай прадукцыі і перакрочыць гэты ўзровень згодна з прадбачаннем КПСС».

Сацыялізм стаўся знаяносцам вызвалення народаў. Больш як дзве трэціх людзей капіталістычнага свету жыве ў бедных, эканамічна адсталых краінах Афрыкі, Азіі і Паўднёвай Амерыкі. Гэты «трэці» свет штораз выразней гравітуе ў напрамку сацыялізма, які дае яму апору ў барацьбе супроць імперыялізма і які паказвае, што шляхам аграмаджання гаспадаркі можна вырвацца з векавой адсталасці.

За сацыялізмам ідзе практыка класавай барацьбы нават у найбольшых капіталістычных краінах. Сколькі ж разоў буржуазныя ідэолагі гаварылі, што сацыялізм з'яўляецца атракцыйным толькі бедным адсталым краінам, што ён не мае аніякіх шанцаў у багатых заходніх метраполіях. Практыка абвяргае канцэпцыі класавага паяднання.

Не так даўно вялікай перамогі ў выбарах дабіліся італьянскія камуністы. Камуністы Францыі становяць галоўную народную сілу, якая выступае супроць дэ Голеўскай дыктатуры. Перапалоханыя поступамі сацыялістычнага руху капіталісты ЗША, Заходняй Германіі і іншыя выдаюць драконскія законы, дэлегалізуюць камуністычныя партыі, здзекваюцца над іх дзеячамі.

Штораз больш у апініі света ўмацоўваецца думка трапна выражана ў дакладзе тав. Ул. Гамулкі «Мір і сацыялізм вырастаюць з аднаго супольнага грамадскага пня. Сацыялізм з'яўляецца неадлучным братам міру».

Нягледзячы на так многа відавочных фактараў спрыяючых сацыялістычнай ідэі, пераўтварэння свядомасці грамадства ў духу сацыялістычных асноў не йдуць у нас у такім тэмпе, у якім можа і павінна ісці. Галоўным недахопам нашага ідэалагічнага фронту з'яўляецца, як падкрэслівалася ў дакладзе тав. Ул. Гамулкі, «недастатковае наступленне ў барацьбе з ідэйным ворагам і недастатковае распаўсюджванне сярод мас сацыялістычных поглядаў».

Неабходна палажыць шмат намаганняў у гэтай галіне, каб сацыялістычная свядомасць перамагла ў сэрцах і розумах усіх людзей нашай краіны.




## ПАСЯДЖЭННЕ ПРЭЗІДЫУМА ГП БГКТ

15 ліпеня адбылося першае пасля IV з'езда пасяджэнне Прэзідыума ГП БГКТ. У парадку дня былі наступныя справы: 1) справаздача з працы ГП за першае паўгоддзе, 2) аналіз паўгадавога баланса ГП і 3) абмяркоўка метадаў рэалізацыі пастаноў IV з'езда ГП БГКТ.

## У ГАРАДСКІМ АДДЗЕЛЕ БГКТ У БЕЛАСТОКУ

На апошнім пасяджэнні гарадскога аддзела БГКТ у Беластоку паклікана да жыцця тры камісіі: Арганізацыйную камісію ўзначаліў Васіль Дамброўскі, прапагандовую — Васіль Баршчэўскі і культурна - асветную — Рыгор Скарынкевіч.

Гарадскі аддзел БГКТ у Беластоку падрыхтаваў 400 кніжак з мастацкай літаратуры і перакажа іх вясковым гурткам БГКТ.

## ГАЙНАЎСКІ ГУРТОК БГКТ РАЗГОРТВАЕ ДЗЕЙНАСЦЬ

Нядаўна адбылося пасяджэнне праўлення гарадскога гуртка БГКТ у Гайнаўцы на якім выбрана новае праўленне: Мікола Дацэвіч — старшыня, Віталі Боўтрык — намеснік, Аня Міхальчук — сакратар, Віктар Бура — скарбнік, Надзя Данілюк, Люба Грыгарук і Уладзімір Сац — члены.

На гэтым пасяджэнні былі прыняты наступныя пастановы: арганізаваць эстрадную групу, наладзіць курс ігры на інструментах і арганізаваць фестын у Нараўцы.

## НА САКОЛЬШЧЫНЕ

Гурткі БГКТ у Кнышэвічах і Слоі выязджалі нядаўна на ўрачыстасць звязаную з 500-годдзем Супраслі. Моладзь цікава і культурна правяла гэты дзень.




Крыгер і Аскер даставілі захопленага контрразведчыка за горад, у невялікі адасоблены домік, які стаяў на ўскраіне лесу. Домік быў уласнасцю бацькоў Дзітрыха і стаяў пусты. Яны перабраліся да сыну, у горад.

Гэты дом антыфашысты выкарыстоўвалі для розных мэт. Тут адпачывалі і набіралі сіл перад адпраўкай на ўсход уцекачы з канцлагераў; каля доміку закопана была зброя групы Шуберта; адсюль двойчы вёў свае перадачы па радыё Аскер.

Адольфа Торпа пасадзілі ў кладоўку, якая межавала з кухняй і не мела акон. Пакуль Аскерназіраў за мясцовасцю, Крыгер звязаў Торпа, абшукаў яго кішэні. Зброю ў контрразведчыка адабралі



яшчэ на заводзе. Цяпер у руках Крыгера апынуліся і яго дакументы. Крыгер знаёміўся з імі, калі пад'ехаў грузавік.

Шафёр Вілі і гардэробшчык Дзітрых — члены пяцёркі Шталекера, увайшлі ў дом.

— Вы вяртаецеся на завод, Вілі, — сказаў Крыгер. — Дзітрых застанецца тут ахоўваць гэтага чалавека. Зброя?

Дзітрых адмоўна кіўнуў галавой.

— Вазьміце. — Крыгер перадаў яму пісталет. — Не спускайце яго з вачэй. У выпадку чаго — страляйце. Улічыце, Дзітрых: гэта небяспечны чалавек. Вельмі небяспечны.

— Ясна.

Дзітрых праверыў зброю і ўладкаваўся ў камора, насупраць Торпа.

Крыгер выйшаў з хаты. Вілі ўжо сядзеў у кабіне грузавіка.

— Паедзеце да ракі за пяском, каб не вяртацца без грузу, — сказаў Крыгер.

Машына паехала. Тады Крыгер працягнуў Аскеру разгорнутую запісную кніжку Торпа. Ва ўсю шырыню старонкі было напісана:

ЛАНГЕ — КРАЎЗЕ — ШТАЛЕКЕР — АНДРЭЙ — КНЫШ.



Аскер азмрачнеў. Узялі, напэўна, сержанта Аўдзеева!.. Такі ж лёс чакае і Шталекера. Ды і Кнышу рыхтуецца падобная доля.

— Калі высачылі Шталекера, могуць намацаць і вас, таварыш Крыгер. Вас і Шуберта.

— Магчыма. — Крыгер зморшчыўся. — Неадкладна ўцякайце. Хацелі ехаць заўтра. Трэба — сёння. Зараз.

Аскер і сам разумеў, што не можа заставацца ў горадзе. Але што будзе з Кнышам, са Шталекерам і яго жонкай, з самым Крыгерам і кіраўніком арганізацыі Шубертам?

— Не клапачыцеся аб нас, — сказаў Крыгер.

— Вы не знішчылі Торпа. Гэта не памылка?

— Хай вырашае Шуберт. Магчыма, Торп спатрэбіцца яму. Ён шмат ведае...

— Небяспечна, таварыш Крыгер!

— Разумею. Але дапытаць Торпа неабходна. Едзем.

«Б'юік» рушыў.

— Куды вас адвезці? — спытаў Аскер.

— Відаць, усё ж рызыкну і паеду да яго зараз.

— Да Шуберта?

— Так. Нічога іншага не застаецца. Шуберта трэба неадкладна інфармаваць.

# БЕЛАРУСКАЕ СЛОВА

Выдавецтва школьных падручнікаў у Варшаве выпусціла гэтымі днямі кнігу для чытання ў III класе «Беларускае слова», складзенае Лідзіяй і Мікалаем Гайдукамі. Матэрыялы ў падручніку вельмі багатыя. Тут апынуліся кароткія апавяданні, выбраныя фрагменты з мастацкіх твораў, паэтычныя творы, гісторыі ў карцінах, загадкі, прыказкі. Займальна і мэтанакіравана прадстаўлены ілюстрацыйны бок выдання. У канцы кнігі змешчаны слоўнік, у якім паясняюцца труднейшыя выражэнні і спалучэнні.

Падручнік падзелены на пяць частак. Асноўным прынцыпам падзелу з'яўляюцца пары года. Згодна з праграмай, прадстаўлены ў гэтым выданні матэрыял знаёміць школьнікаў з рознымі праявамі вясковага і гарадскога жыцця, прышчапляе любоў да навакольнай прыроды, з якой сутыкаюцца дзеці штодня. У падручніку скарыстаны творы шматлікіх аўтараў — перш за ўсё беларускіх і польскіх. Трэба падкрэсліць, што ўвесь матэрыял не мучыць чытача нейкай надакучлівай дыдактыкай, а разам з тым заключае ў сабе акрэсленыя мэты выхаваўчага характару. Вучыць, напрыклад, уважліва пазнаваць іназіраць навакольны свет, кшталтуе правільныя адносіны вучняў да ўласнай школьнай працы і працы іншых людзей, прышчапляе сумленнасць, вучыць цаніць сяброўства. Аўтары «Беларускага слова» аддалі таксама ўвагу і матэрыялам, якія спалучаюцца па сваёй тэматыцы з урокамі прыроды і геаграфіі. Праграма для III кл. пачатковай школы якраз і прадбачвае такую сувязь. У гэтым класе ўпершыню ўводзяцца кароткія пісьмовыя працы ў форме апавяданняў, на аснове карцін. У падручніку ёсць некалькі такіх гісторый у карцінах. У выданні аўтары звяртаюць таксама ўвагу на гігіену школьнага і хатняга жыцця, а таксама на дзейнасць гарцэрскай арганізацыі. Некалькі твораў знаёміць чытачоў з легендамі роднага краю.

У цэласці «Беларускае слова» прынясе несумненна карысць школьнікам, спрыяючы паглыбленню іх ведаў, набытых у папярэдніх класах і падрыхтуе да больш складаных задач у наступных класах.

**М. Канапацкі**




## З ЖЫЦЦЯ БГКТ

## ХАЙ ГАРМОНІК ГРАЕ

Гарадскі аддзел БГКТ у Беластоку чацвёрты ўжо год арганізуе курсы ігры на музычных інструментах.

У мінулым сезоне навука адбывалася ў трох групнх: дзве групы пазнавалі тайны акардэона. Ігры на акардэоне вучыў удзельнікаў курса інструктар Э. Дзювінскі. У апошняй, трэцяй групе (на здымку) ўдзельнікі развучвалі ўмеласць валодання гітарай —інструментам, які спрадвеку спадарожнічае закаханым. Мо' таму тут больш дзяўчат?

Усе тры групы чарговы год навукі закончылі камісійным экзаменам.

Фота: **В. Рудчык**



# ГЭТА БЫЛО Ў БЕЛАСТОКУ

(Працяг са стар. 1)

У вялікім пакоі з дакладна задрапіраванымі вокнамі сядзелі і стаялі людзі. Роўна ў дзесяць гадзін вечара пачаўся сход. Першым выступіў Рыгор Дубашвілі. Ён адрэкамендаваўся. Падпольшчыкі адразу загаварылі. Было відаць, што выступаючага ўжо даўно некаторыя ведаюць.

Дубашвілі гаварыў аб заданнях па барацьбе з гітлераўцамі.

— Адным з асноўных заданняў падпольнага руху, — гаварыў ён, — з'яўляецца расстройства забеспячэння фронта людскімі рэзервамі, узбраеннем і прадуктамі. Наш абавязак не прапускаць на ўсход варожых эшалонаў і транспарт, паліць і ўзрываць ваенныя аб'екты ворага.

Падпольшчыкі з вялікай увагаю слухалі Пятра Мікітыча. Газавая лямпа кідала кругі святла на смуглы твар выступаючага. У яго быў шырокі лоб, цёмнарусыя валасы, зачэсаныя назад злёгку кучараваліся, шэрыя вочы глядзелі смела і адкрыта. Ён, злёгку сагнуўшыся над сталом, гаварыў:

— Калі армія ваюе адкрыта, то мы ваюем тайна. Наш фронт тут. Мы павінны прабіцца на ваенныя аб'екты ворага, у гестапа, паліцыю і там дзейнічаць. Як гаворыцца, і адзін у полі воін, а нас многа. Падпольшчык павінен заўсёды захоўваць пачуцця меры ў сваіх паводзінах, у размаўленнях. Знешняе раўнадушша, палахлівы выгляд, працавітасць на пользу «новай Еўропы» і пакорнасць — такім павінен быць воблік падпольшчыка. Гэта лепшы шчыт, якім мы можам адгарадзіцца ад падазрэння гестапа, — Пётр Мікітыч гаварыў памалу, як быццам бы ўзвешваў кожнае слова. У яго голасе быў якісьці асаблівы мужны адценак, такі голас нельга было не слухаць, ён уваходзіў ва ўсведамленне, пабуджаў думкі і пачуцці.

Потым выступіў Аляксандр Ракавец. Ён гаварыў аб чуйнасці падпольшчыка.

— Не страшны паліцэйскі ў форме, нават тайны агент гестапа, які ходзіць па слядах неадступным ценем, падглядае і падслухоўвае. Больш страшны за ўсё правакатар у нашых радах. Ён пранікае ў падпольныя арганізацыі, каб потым прадаць ворагу.

На сходзе было дагаворана, што толькі кіраўнікі падпольных груп будуць ведаць адзін аднаго. Радавому падпольшчыку будуць вядомымі толькі нямногія яго таварышы, працуючыя побач.

Сход выбраў цэнтр Беластоцкай антыфашысцкай падпольнай арганізацыі, куды ўвайшоў і Пётр Мікітыч Найдзенка. Ён узяў падпольную клічку «Палтаўскі». Цэнтр даў Пятру Мікітычу спецыяльнае заданне.

Гэты першы сход прыбавіў падпольшчыкам сілы ў некалькі разоў больш. Нічога так не натхняе чалавека, як яснасць мэты, хаця ўмовы барацьбы рабіліся з кожным днём усё больш цяжкімі.

Кароткая летняя ноч праходзіла хутка, быццам бы ёй трэба было куды - небудзь паспець да світання. Каля першай гадзіны ночы густы змрок ахутаў зямлю, пагасіў зоркі, неба зацягнула хмарамі, і кругом стала яшчэ цішэй.

Падпольшчыкі па адным, асцярожна разыходзіліся. Толькі часамі чуліся крокі, потым яны, як бы прытаіўшыся, заціхалі ў цемры.

II.

Ваенны аэрадром быў за Беластокам, каля вялікага старога лесу. Штаб, казармы, дамы афіцэрскага складу, сталовая хаваліся пад дрэвамі, а вялікае лётнае поле раскінулася на ўзлессі.

Было каля першай гадзіны дня, калі Пятра Мікітыча прывязлі ў лётны гарадок. Салдат загадаў яму пачакаць на лавачцы, каля сталовай, а сам пайшоў у штаб, паведаміць аб яго прыбыцці.

У лесе было душна, толькі часам няўлоўны павеў ветрыка паварушваў вярхушкі дрэў, прабягаў уніз па галінках і калыхаў духату. Стаяў густы пах разамлелых ад гарачыні хвояў.

Прыкладна пасля гадзіны прышоў салдат і адвёў Пятра Мікітыча ў штаб аэрадромнай службы, да каменданта аэрадрома лейтэнанта Келермана. Камендант сядзеў у невялікім светлым кабінеце. Твар яго быў ад загару цагляна - чырвонага колеру. Ён смараваў хлеб маслам і еў вяндліны.

— Сядайце, калі ласка, — з пашанай па-руску загаварыў камендант, выцер хустачкаю потную мясістую сваю патыліцу і пачаў перабіраць пальцамі на стале якуюсьці паперу.

Пётр Мікітыч уважліва глядзеў у твар лейтэнанта. Пачалася анкетная размова. Дзе нарадзіўся, дзе працаваў да вайны, можа камуніст? І пасля допыту адбылася гутарка аб працы.

— Біржа працы рэкамендавала вас да нас на работу тэхнікам - водаправодчыкам. Наша малая справа да вашых палітычных пераканнняў. Мы павінны тут мець ваду, — камендант аэрадрома адкінуўся на спінку крэсла і закурыў цыгарэтку.

— Мая справа, пане лейтэнант, працаваць. Усё іншае мяне не датычыць. А вада ў вас будзе. — Пётр Мікітыч пакорна глядзеў на каменданта.

(Працяг на стар. 4)

З два кварталы ад дому Шуберта «Б'юік» спыніўся.

— Бывайце, — сказаў Крыгер.

— Бывайце.

Крыгер выйшаў з машыны і рушыў па дарожцы.

Аскер азірнуўся. Рэдкія домікі ў гэтай часці горада стаялі ўроскід. Між імі цягнуліся групы дрэў. Людзей на вуліцы не было. Быццам усё ў парадку.

І ён паехаў.

Вось і завод. Паставіўшы машыну ў гараж, Аскер пазваніў у прыёмную дырэктара і паведаміў, што аўтамабіль няспраўны і будзе гатовы толькі заўтра. Аскера не павінны былі хапіцца раней, чым наступнай раніцы.

Апошні позірк на завадскі двор, на цэхі, якія абступілі яго паўкругам, на палонных, што грузілі ў ваганеткі вялікія пласкія скрыні, — і Аскер выйшаў за вароты завода.

* * *

А пятай гадзіне дня механік Шталекер быў зноў выкліканы ў кабінет загадчыка канцылярыі.

Вярнуўшыся ў цэх, Шталекер адшукаў палоннага Кныша, быццам прыпадкова штурхнуў яго локцем. Яны сустрэліся позіркамі, механік паказаў на падлогу. Там бялела запіска. Кныш падняў яе...

У канцы рабочага дня Шталекеру далажылі аб сур'ёзным выпадку: у цэху выйшлі са строю тры найбольшыя і найважнейшыя станкі — аўтаматы.

Шталекер забіў трывогу. Неадкладна паведам-

198

лены кіраўнікі цэха. Тыя далажылі дырэктару завода. Падняўся перапалох — на гэтых станках рабілі асноўныя часці фаустпатронаў; выхад станкоў са строю пагражаў сур'ёзнымі ўскладненнямі.

У цэх прыбылі Кюметц, інжынер завода і іншыя спецыялісты. Пераходзячы ад станка да станка, яны раздражнена сачылі за працай наладчыкаў, якія намагаліся пусціць агрэгаты. Справа рухалася туга. Прычыны няспраўнасці ўсё яшчэ не былі знойдзены.

Прайшла гадзіна. Станкі былі ў тым жа стане. Кюметц кусаў губы са злосці.

— Пане дырэктар, — сказаў нехта побач, — магчыма, памогуць рускія палонныя?

Кюметц павярнуўся. Побач стаяў загадчык канцылярыі Крыгер і паказваў вачыма на вугал цэха, дзе працавала група палонных.

Палонныя! Дырэктар уздыхнуў. Гэта была добрая думка. Дзе той рускі механік, працу якога ён назіраў некалькі дзён назад? Ага, вось ён.

— Эй, — крыкнуў Крыгер. — Эй, ты, ідзі сюды!

Кныш пакінуў скрыню, якую разам з таварышамі перасоўваў у вугал цэха, нетарапліва падыйшоў. Крыгер моўчкі паказаў на няспраўны станок. Кныш выцер рукі, падыйшоў да станка, пачаў яго аглядаць. Усе спынілі працу, стаўпіліся навокал. Закончыўшы агляд, палонны выпраставаўся.

— Ну? — сказаў Кюметц.

— Дзянькі праз два зраблю...

Дырэктару пераклалі.

— Адзін станок? — крыкнуў ён. — Слухай, або

199

паправіш усе тры да раніцы, або адправішся назад у Аўшвіц! Ясна?

— Адзін я нічога не зраблю.

— Застаўляй каго хочаш, але каб за ноч усё было кончана.

Кныш маўчаў. Здавалася, ён разгубіўся.

— Добра, — сказаў, урэшце, ён. — Паспрабую.

Кныш выбраў пяць палонных. Усе яны адышлі ўбок.

— Застануцца гэтыя, — сказаў Кныш.

У адзінаццаць гадзін вечара Кюметц прыехаў на завод, прайшоў у цэх і пераканаўся, што справы ідуць поўным ходам.

Выйшаў ён з цэха ў дасканалым настроі. На вочы яму трапіўся грузавік. Машына ў гэты час не ў гаражы? Гэта быў непарадак.

— Што вы тут робіце? — строга спытаў дырэктар шафёра, які вазіўся ля матора.

Шафёр, малады хлапец з павязкай на воку, вытлумачыў: ён вазіў пясок для ліцейнай, закончыў, збіраўся ў гараж, але закапрызіў рухавік. Вось — правярае тапліўную сістэму.

— Усё павінна рабіцца своечасова. — Кюметц злосна рушыў плячом. — Заканчвайце і выбірайцеся адсюль.

— Добра, пане дырэктар, — сказаў шафёр. — Больш гэта не паўторыцца.

(Працяг на стар. 7)

200

Сельская гаспадарка без таямніц

# КОРМ „ЗАДАРМА"

Часта гаворым аб вялікіх, супэрсучасных сродках і метадах, поўнай механізацыі і хімізацыі сельскай гаспадаркі. Слушна. Гэта ўсё вельмі патрэбнае. Гэтага патрабуе сучасны тэмп развіцця.

У святле вялікіх мэт часта забываем аб звычайных справах, але надта сур'ёзных. Вось хаця бы такая праблема: біланс корму, які робім штогод для Беластоцкага ваяводства, паказвае пакрыццё патрэб у кормах сакавітых у велічыні каля 20%. Але цяжка паверыць. І таму нізкая прадуктыўнасць малака ад кароў, якая знаходзіцца ў граніцах 1800 літраў, становіцца больш зразумелай. Сакавіты корм — гэта крыніца малака і пры гэтым танная і смачная.

Звычайна гаворыцца, што недахоп поля на матылькковыя ці кукурузу, што няма на Беласточчыне бетонных сіласаў, што тое і сёе. А можна сакавіты корм атрымаць амаль задарма. Маем на думцы пасляжніўныя культуры.

На Беласточчыне пасляжніўныя азімыя культуры збіраем на пачатку чэрвеня (пераважна каля 150 ц/га). У вырошчванні знаходзяцца: лопух, рапс, віка, райграс італьянскі і англійскі, жыта, пшаніца. У нашых умовах найлепшыя вынікі дае вырошчванне азімай вікі з жытам.

Пасляжніўныя культуры сеем пад канец жніўня. Каля 15 жніўня сеем віку (ад 50 да 150 кг на га), а 2 тыдні пазней — жыта (ад 40 да 100 кг).

Угнаенне: гной, або гнаявая жыжка, 2 ц азотнага ўгнаення, 1,5—3 ц каліевых угнаенняў, а таксама 2—3 ц фосфарных. Азот даем у салетшаку, або ў салетры, таму што гэтыя ўгнаенні вельмі хутка дзейнічаюць.

У паўднёвым раёне ваяводства можна вырошчваць пасляжніўныя іржышчавыя культуры, асабліва рэпу. Такія культуры ўдаюцца ў нас вельмі добра, калі доўгая і цёплая восень, а таксама шмат ападкаў. Бягучы год павінен у гэтых адносінах быць спрыяючым.

Зараз пасля зжацця і ўстанаўлення збожжа прыступаем да ворыва (12—15 см) і адначасова барануем. Глеба павінна быць ачышчана ад пустазелля і павінна характарызавацца вялікаю колькасцю ўгнаення. Незалежна ад гэтага даем: 40—60 кг азоту, 30—50 кг фосфару, а таксама 80—100 кг калія. На 1 гектар высяваем 2—4 кг насення рэпы. Глыбіня прыкрыцця — 1 да 2 см, а шырыня паміж радамі —25—35 см.

Кожны добры гаспадар не прапускае аказіі, каб атрымаць дабавачны корм. Сцвярджанне, што такім спосабам вычэрпваецца глеба, не мае нічога супольнага з праўдаю. Якраз наадварот — добра вырошчваемыя пасляжніўныя культуры, пад якія даем адпаведную колькасць штучных угнаенняў, пакідаюць глебу з добраю структураю. Маем тады дасканалае становішча для раслін пасяўных, або саджаных позняю восенню.

Дык вось — і корм і добрае становішча.

**Інж. М. Сухажэбрскі**



Школа імя Кастуся Каліноўскага ў Мастаўлянах.

# РЭЧАІСНАСЦЬ І МАРЫ

Дзевятнаццаць гадоў народнай улады. Новыя гарады і гіганцкія заводы, новыя шахты і мартэнаўскія печы. Аб усім гэтым можна расказваць без перадышкі. А што можна сказаць аб нашай вёсцы?

Не аб гэтай перадавой з сельскагаспадарчым гуртком і пыхкаючым трактарам (хаця і такія вёскі зараз у нас не рэдкасць), але аб закінутай далёка ад шасэйных трактаў, ад павета і зацікаўлення павятовых улад мясціне. Хаця б, для прыкладу, такія Мастаўляны ў Беластоцкім павеце.

У Мастаўлянах ёсць прыгожая школа імя Кастуся Каліноўскага (у гэтай вёсцы нарадзіўся Кастусь Каліноўскі — арганізатар студзеньскага паўстання на Падляшшы). Пабудавана яе нядаўна, некалькі гадоў таму назад.

Год Беластоцкай зямлі ў мастаўлянскай школе адзначаюць па-свойму. Вось, напрыклад, аднаго вясенняга дня загадчык школы выпісаў на дошцы тэму пісьмовай працы: «Мая вёска за 20 год». Хай дзеці падумаюць над лёсам сваёй вёскі. Дзеці пачаткова здзівіліся. «Адкуль мы можам ведаць, што будзе за 20 год?» Неўзабаве аднак дзіцячыя галоўкі пачалі працаваць, заскрыпелі ручкі.

**«Мая вёска цяпер выглядае непрыгожай, бо ёсць многа старых хат, пакрытых саламянаю страхою. Побач стаяць драўляныя платы. Вуліца вузенькая, і на ёй поўна бруду. Я хачу, каб мая вёска за дваццаць год перамянілася ў горад. Замест драўляных хат, каб сталі агнеадпорныя з цэглы, пакрытыя чарапіцамі. Замест калодзежаў, павінен быць водаправод. Сельскагаспадарчы гурток палегчыў бы жыццё сялян. Хачу, каб за дваццаць год у нашай вёсцы былі пабудаваныя: універмаг, клуб і кінатэатр. Замест вузкай дарогі трэба пабудаваць шашу і вуліцамі павінны ездзіць аўтобусы».**

**Сачыненне Раі з VII кл.**

Загадчык школы сабраў сачыненні, злажыў у канверт і пераслаў у нашу рэдакцыю. Зараз ляжаць яны на маім стале. З зацікаўленнем чытаю гэтыя тварэнні дзіцячай фантазіі.

**«Я думаю, што мая вёска будзе за дваццаць год горадам. Усе хаты будуць з цэглы. Будзе школа і магазін. Усе людзі будуць мець тэлевізары. На вуліцы будуць тратуары. Я думаю, што ў нашай вёсцы будзе чыгуначная станцыя. Мастаўляны стануцца цэнтрам павета. У нашую вёску будуць прыязджаць аўтобусы і будзе аэрадром. Будзе бальніца і вялікія крамы. Думаю, што за 20 год ніхто не будзе мець каня, усе будуць ездзіць таксоўкамі. Будзе шаша і аўтамабільны завод. У нашай вёсцы пабудуюць цырк і дзіцячы сад. Усе людзі будуць мець сціральныя машыны».**

**Сачыненне Надзі з VI класа.**

Мары і рэчаіснасць. Дзевятнаццаць мінулых гадоў і дваццаць гадоў наперад. На колькі збыліся спадзяванні сялян за мінулае дзевятнаццацігоддзе і наколькі рэальныя сённяшнія мары маладых жыхароў гэтай, наогул адсталай, мясціны?

**«Мая вёска налічвае цяпер 52 хаты. Уяўляю сабе, што за 20 год налічваць будзе 104 хаты. У нашай вёсцы ёсць новая школа, а можа за дваццаць год яшчэ адну пабудуюць. У вёсцы была старая крама, цяпер пабудавалі новую. Мо' пабудуюць яшчэ адну? У нашай вёсцы няма яшчэ сельскагаспадарчага гуртка. Цяпер мая вёска пабудавана з дрэва, за некалькі год будзе ўся з цэглы. Цяпер у нас аруць поле коньмі, а за дваццаць год будуць араць трактарамі, а сеяць сеўнікамі. Наша вёска распалажона паміж Свіслачанамі і Дублянамі. Магчыма, што мы яшчэ злучымся з гэтымі вёскамі і будзем складаць адну вялікую вёску. А з вёскі можа паўстаць горад. Будзе тут кінатэатр, клуб, водаправоды, на вуліцах будуць ездзіць аўтамашыны, а людзі не будуць так цяжка працаваць, як зараз. Многія будуць мець тэлевізары».**

**Сачыненне Веры з VII класа**

У Мастаўлянах быў я цэлы дзень. Гутарыў з людзьмі аб іх жыцці, фа-



На Арцёмчыкавым панадворку.

(Працяг са стар. 3)

— Добра. Мяне ваш адказ задавальняе, — здавальненне было на твары лейтэнанта.

— Прабачце, пане лейтэнант, а колькі я буду атрымоўваць у месяц? — На якісьці момант Пётр Мікітыч застыў у чаканні.

— Трыццаць марак у месяц і паёк вольнанаёмнага, — жорсткія вочкі каменданта прыжмурыліся ў пухлых павеках.

— Не. За трыццаць марак у месяц я працаваць у вас не буду, — Пётр Мікітыч трасянуў галавою і выпраставаўся.

На якуюсьці долю мінуты ў кабінеце ўстанавілася нацягнутая цішыня. Касыя сонечныя праменні поўзалі залатымі павукамі па маляванай падлозе і нізкім прысадзістым стале. Затым лейтэнант заварушыўся ў сваім крэсле, зрабіў рух плячыма, як быццам бы папраўляў мундзір.

— Вы рускі, я разумею, што вам трэба шпек, шнабс і сігары. Мы дамо вам і тое і другое і трэцяе, — камендант напружана ўглядаўся ў твар Пятра Мікітыча, здавалася, што бялявыя яго вочы вось, вось выскачаць з арбіты, відаць ён выпрабоўваў савецкага чалавека.

— Сто марак у месяц без гарэлкі і цыгараў, — Пётр Мікітыч проста паглядзеў у твар каменданта.

Лейтэнант зрабіў нейкі неакрэслены жэст рукою.

— Не злоўжывайце, пане Найдзенка, маёю ўвагаю. Восемдзесят марак і сёння ж прыступайце да працы, — лінія вуснаў каменданта выяўляла пагарду да таго, хто ад яго залежыць.

— Згодны, — падумаўшы адказаў Пётр Мікітыч, а потым памалу ўстаў і выпраставаўся.

— Можна ісці?

— Ідзіце!

Калі Пётр Мікітыч выйшаў са штаба лётнай службы, сонца ўжо стаяла над заходнім краем неба і збоку пранізвала густыя вяршыні старавечнага лесу. Унізе на сцяжынках, там-сям, ляжалі яго залацістыя праменні. Пётр Мікітыч ад хвалявання паружавеў. На сэрцы ў яго было радасна і трывожна.

Быў верасень, але дні стаялі яшчэ ціхія і цёплыя. Аднойчы, раніцою, прайшоў дождж і неяк адразу зрабілася добрая сонечная пагода. Неба ізноў па-летнему зрабілася бязвоблачным і сінім, быццам бы памытае. Мокрыя асфальтовыя вуліцы, з якіх яшчэ не паспела сцячы вада, блішчэлі ў сонечных праменнях. Якраз у гэты час да магазіна будаўляных матэрыялаў фірмы «Хойслера» пад'ехала легкавая машына. З яе выйшаў мужчына год трыццаці, у плашчы. У руцэ яго быў вялікі, лімонавата колеру партфель, з двума замкамі.

Чалавек з ходу пхнуў дзверы і зайшоў у магазін так, як заходзіць сам Хойслер. Людзі адразу адчулі, што гэта незвычайны пакупнік і адыйшлі ад прылаўка. Мужчына моўчкі абвёў позіркам прысутных, дастаў цыгару, размяў яе ў пальцах і пачаў курыць так, быццам бы спакушаў другіх.

Позірк прадаўца слізгануў па востраму твару чалавека з цыгарай. Мужчына разгладзіў далонямі свой твар, нібыта збіраўся са сваімі думкамі, і звярнуўся да прадаўца:

— Прадавец! Сёння ж падрыхтуйце для лётнай часці шэсць калонак для ванн, 20 ракавін і 50 душавых установак, — пакупнік быццам адрубаў адно слова ад другога.

— Добра, пане, — твар прадаўца выражаў вышуканую ветлівасць.

— Вось вам запіска пана Хойслера. У ёй усё напісана. Толькі не падумайце брак запакоўваць.

— Мужчына палажыў паперу на прылавак.

Прадавец узяў запіску, схаваў яе ў бакавую кішэню. Чалавек у тую ж мінуту выйшаў з магазіна.

У абедзенны перапынак падпольшчык Аляксей Канторскі замкнуў з сярэдзіны на засаўку магазін, узяў лупу і на адваротнай старонцы запіскі прачытаў дробна, быццам бісерам, напісана алоўкам: «Патрэбны яшчэ тол. Сёння ж палажыце яго ў калонку для ванн і напішыце крэйдай яе вартасць. Палтаўскі».

# ГЭТА БЫЛО

Назаўтра Пётр Мікітыч прачнуўся ў 6 гадзін раніцы. Яму здавалася, што бясконца і доўга цягнулася ноч. Ён устаў з цяжкімі думкамі і падыйшоў да акна.

На ўсходзе палала зарыва. Дзераўляныя домікі рабочага пасёлка пачалі выразна вырысоўвацца з густой імглы, яны чамусьці паказаліся Пятру Мікітычу менш сваёй звычайнай велічыні, нібыта прыпалі да зямлі і сонна туліліся да дрэў. Найдзенка думаў аб тым, што ён павінен сёння ехаць у горад за абсталяваннем для дома афіцэраў і прывезці тол. А ці вышлюць яго? Рой думак праносіўся па галаве. Падпольшчык змагаўся з цяжкім хваляваннем, потым перад вачыма на якуюсьці долю секунды з'явіліся яго сябры і выразна ў вушах чуліся словы: «У вас спецыяльнае заданне». Адразу прапала цяжкае адчуванне адзіноты, якое часамі паяўлялася ў падпольшчыкаў. Пётр Мікітыч хутка апрануўся і пайшоў да аўтобуса.

Як толькі ён прыехаў

таграфаваў іх хаты і панадворкі. Праўду сказаць, нішто не сведчыць аб тым, каб за 20 год падвоілася тут колькасць гаспадароў, або каб суседнія вёскі зліліся ў адну. Нічога аднак не стаіць на перашкодзе, каб збыліся, і то значна хутчэй, чым за 20 год, іншыя мары малой Верачкі, каб людзі перасталі так цяжка працаваць на гаспадарцы. Ужо зараз у суседніх вёсках на ўвесь дух гудзіць трактар і ляскочуць жняяркі.

А што датычыць дасягненняў за апошнія 19 гадоў, то сталася тут (і не толькі тут) тое, аб чым не адважыліся і марыць калісьці сяляне. Бо ці ж мог убогі Максім, ці Антон марыць да вайны, каб яго сын быў «панам доктарам» ці «панам прафесарам». А цяпер з малой вёскі Мастаўляны выйшла ў свет 6 асоб з вышэйшай адукацыяй, 7 настаўнікаў і шмат моладзі з сярэдняй поўнай і няпоўнай адукацыяй. Дарэчы было б напомніць таксама, што хаця гаспадарыцца ў Мастаўлянах даволі па-старому, хаця няма сельскагаспадарчага гуртка, а затым і не выкарыстаны грошы, якія дзяржава дае на развіццё вёскі, нягледзячы на ўсё гэтае ў вёсачцы гэтай ёсць 11 матацыклаў, 3 маторы з малатарнямі, 16 радыёпрыёмнікаў і г.д.

А таго, што ў будучыні колькасць гаспадарак у Мастаўлянах мабыць не падвоіцца — шкадаваць не варта. Калі ж на заканчэнне дазволіце сказаць аб чым я мару, то толькі аб тым, каб як найбольш маладых мастаўлянцаў знайшло сабе месца жыцця і працы ў горадзе, каб штораз больш дасканалыя машыны аблягчалі працу тых, хто застаецца на месцы. А гэта і з'яўляецца адным з асноўных элементаў праграмы пабудовы сацыялізма ў нашай краіне.

Не перашкаджайма аднак школьнікам з Мастаўлян па-свойму марыць аб велічыні сваёй вёскі.

**«Уяўляю сабе, што мая вёска за дваццаць год будзе мястэчкам, а не вёскай. Сяляне будуць араць не плугамі, а трактарамі. Будуць шматпавярховыя дамы і будзе многа вуліц. У гэтым мястэчку будзе сярэдняя школа, у якую будзе хадзіць мая сястра. Будзе кіно і тэлебачанне. На вуліцы прадаваць будуць марожанае. Замест калодзежаў, будзе ў кожнай хаце вада, не трэба будзе выходзіць на двор. Каля кожнай хаты будзе траўнік, дзе будуць расці кветкі. А калі нехта захварэе, у вёсцы будзе лекар».**

**Сачыненне Ірыны з VI класа.**

Апрацаваў **Ул. Паўлючук**
Здымкі: аўтара.

# З ПЕРАЖЫТАГА І ПРЫЗАБЫТАГА

Лета! Шмат у гэтыя дні працы на вёсцы. Толькі паспявай упраўляцца. І таму рана цяпер устаюць сяляне і позна ідуць спаць. На палях ідзе змаганне за хлеб, за іншыя прадукты. Уладзімір Хомік са Слоі на Сакольшчыне выцірае з твару пот, а позірк яго накіроўваецца на непадалёкі луг, які завуць Папоўка і які знаходзіцца на граніцы палёў суседніх вёсак Сукавіч і Піражкоў. Яму прыгадваецца іншае лета, а менавіта першага жніўня 1935 года. Камуністычная партыя Заходняй Беларусі адзначала гэты дзень як антываенны і арганізавала мітынгі. Уладзіміру Хоміку — члену КПЗБ і сакратару ячэйкі камсамола ў Слоі запомніўся назаўсёды гэты мітынг. З палымянаю прамовaю, заклікаючай да барацьбы супроць сацыяльнага і нацыянальнага прыгнёту, выступаў



член крынкаўскага раённага камітэта КПЗБ пад псеўданімам Барыс. Прамова гэта падбадзёрвала, гартавала, натхняла. Пасля заканчэння мітынгу грымнула дружная магутная песня «Смела таварышы ў ногу, духам акрэпнем у баі». Песня неслася над палямі і здавалася, што відней рабілася ад яе ў позні жнівеньскі вечар.

Уладзімір Хомік не надта любіць кранаць мінулае. — Што было — тое прайшло ўжо, — крыху падумаўшы гаворыць ён. — А яшчэ ляпей, калі б многае з гэтага мінулага ніколі не вярнулася, не паўтарылася.

Сваімі скупымі словамі рысуе ён вобраз забастоўкі тэкстыльшчыкаў у Беластоку ў 1933 годзе, калі ён і многія камуністы арганізавалі дапамогу рабочым, калі збіралі збожжа, бульбу і іншыя прадукты і адпраўлялі ў Беласток. Усё гэта рабілася пакрыёму, так, каб не дайшла вестка да паліцыі ў Шудзялаве.

Многае перажытае і прызабытае. Уладзімір Хомік цяжка ўздыхае і пачынае гаварыць аб лясной забастоўцы ў 1934 годзе, аб тым, як яны выступалі супроць штрэйкбрэхераў, як арганізавалі паход на Шудзялава, каб вызваліць арыштаваных сваіх сяброў - рэвалюцыянераў. І вось тады палілася рабочая кроў. Шудзялаўскі камендант Антоні Марконь загадаў страляць да рабочых. 6 чалавек было раненых, а Уладзімір Хомчык з Сурожкава ўмірае ад паліцэйскіх куляў.

Ва Уладзіміра Хоміка ажываюць карціны мінулага. Менавіта мінулае — гэта ручай, ад якога ўсё шырэй і шырэй разліваецца і развіваецца сённяшняе. За гэтае сённяшняе многа людзей змагалася, многа выцерпела страшныя здзекі ў турмах. Турма не абмінула і Уладзіміра Хоміка. Яго арыштоўваюць за падпольную дзейнасць, засуджваюць на 5 год цяжкога турэмнага зняволення.

Не хочацца яму прыгадваць, як усё гэта адбылося. І без таго цяжка робіцца на душы, таму што многа яго знаёмых і сяброў не дачакалі таго, за што змагаліся. Смерць вырвала іх з радоў змагароў за новы справядлівы лад.

Калі гаворыць Уладзімір Хомік аб тым перыядзе, калі на Беласточчыне была савецкая ўлада, здаецца, што вочы яго ясней свецяцца і што змяншаюцца маршчынкі на яго твары. Ад грамадскасці былой Шудзялаўскай гміны ён і Іван Хомчык з Паўднёвага Вострава выбіраюцца дэлегатамі народнага сходу ў Беластоку. Потым працуе ён старшынёй сельсавета ў Сідры.

У змрочныя дні гітлераўскай акупацыі варвары неаднойчы шукалі яго. Яму ўдалося пераховацца і не папасціся ім у рукі. Не ўдалося таксама бандытам забраць яму жыццё ў 1945 годзе, якія імкнуліся задушыць маладую народную ўладу і знішчыць яе сапраўдных прыхільнікаў. Уладзіміру проста ўдалося ўцячы, калі бандыты напалі на дом Хомікаў. І вось у гэтую ноч вялікае гора рынулася на яго. Бандыты не знайшлі Уладзіміра дык закатавалі ў хаце яго бацькоў. На вочы яго і цяпер накачваюцца цяжкія, як волава слёзы, калі ён успамінае 11 лістапада 1945 года, ноч, у якую былі замучаны найдаражэйшыя яго сэрцу людзі — маці і бацька. У хаце тады асталося 6-ра сірот, якіх ён як найстарэйшы брат гадаваў і вучыў.

Ішоў час. Ён паступова зацягваў глыбокую рану, заглушыў нясцерпны боль. Уладзімір Хомік працуе пачаткова на гаспадарцы. Потым праз дзве кадэнцыі быў старшынёй грамадскай рады нарадовай у Шудзялаве, а пазней інспектарам пункту збору злому. Зараз ён зноў працуе на гаспадарцы. Як бачым, нялёгка пражыў ён свае 50 год. Ніколі жыццё

(Працяг на стар. 7)



# ВОЧНАЯ СТАЎКА

Пад саламянай страхой дрэмле старэнькая хатка (здымак уверсе). Мог бы залажыцца, што памятае яна яшчэ той час, калі на нашай роднай зямлі царстваваў дом Раманавых. Маўчаць, на жаль, старэнькія сцены. Не адно маглі б яны расказаць аб голадзе і холадзе, аб нястачы і змаганнях.

Толькі вось цяпер старэнькую хатку, быццам павуціннай ніткай, аплялі з усіх бакоў драты з медзі, алюмінія і сталі. Па дратах плыве ў хатку электрычная энергія, драты ловяць радыёхвалі, яны прыносяць святло і аблягчаюць жыццё чалавеку. Гэтыя чарадзейскія драты — новы элемент краявіду цяперашняй нашай вёскі.

Часта яшчэ прошлае старое непасрэдна сустракаецца ў нас з новым сучасным. Вочная стаўка аднаго і другога гаворыць сама за сябе. Тым больш, што ў нас, у Беластоцкім ваяводстве, усё менш і менш згорбленых пад страхою хатак. Іх выціскаюць з краявіду вёскі вось такія малюнкі (здымак унізе).

Тэкст і фота: **В. Рудчык**



# У БЕЛАСТОКУ

на работу, яго адразу ж запрасіў да сябе лейтэнант Келерман.

— Пане Найдзенка, я вамі вельмі нездаволены. У сталовую ваду вы маглі б даць раней, — камендант яўна быў не ў настроі. Ён адвярнуўся, глядзеў у акно і прагна зацягваўся цыгарай.

— У сталовай, пане лейтэнант, праводка была сапсавана, вялікія земельныя працы трэба было праводзіць, — тлумачыў Пётр Мікітыч.

Настала мінута роздуму. У Найдзенкі часцей і мацней пачало біцца сэрца. І толькі некалькі мінут пазней падпольшчык знайшоў у сабе сілу.

— Што мне сёння рабіць, пане лейтэнант? — спакойна запытаў Найдзенка.

— Трэба зараз жа направіць каналізацыю ў доме нашых афіцэраў. Як толькі прывязуць абсталяванне, устанавіце ў ваннах калонкі і душавыя. А перад усім у кватэры нумар шэсць.

Пасля слоў лейтэнанта ў Пятра Мікітыча адразу ж паўстаў план. Ён быў смелы і просты.

— Можна ісці?

— Ідзіце! — камендант услед кінуў касы позірк.

Калі Пётр Мікітыч выйшаў са штабу, шум запаўняў яго вушы, сэрца білася так, што ён чуў яго біццё. Найдзенка няспешна пайшоў у бок дома лётнага складу. Сонца стаяла над аэрадромам і свяціла проста яму ў вочы.

Падпольшчык убачыў на лётным полі мноства аграмадных машын, якія стаялі ў радах, шырока распасцёршы крыллі, глуха працавалі маторы. Некалькі бамбардзіроўшчыкаў прайшло над аэрадромам, потым павярнуліся і пачалі зніжацца. «Адбамбіліся, сцярвятнікі», твар Пятра Мікітыча прыняў жорсткі выгляд.

У гэты час з гаража выйшла грузавая машына. У кабінецы побач з немецкім шафёрам сядзеў Стась Луговіч. Твар Найдзенкі прасвятлеў. Ён затрымаў машыну.

— За абсталяваннем, у магазін Хойслера? — запытаў Пётр Максімыч.

— Так, пане тэхнік, — Луговіч высунуўся з кабіны.

— Бярыце для ванн калонкі, якія пакажа вам прадаўчыха магазіна. А калі прывязеце брак, тады я з вас скуру здзеру, — апошнія словы тэхнік сказаў так голасна, каб яго пачулі рабочыя ў кузаве.

— Я вас зразумеў, — амаль прыкметная ўсмешка паказалася на твары электраманцёра.

Праз дзве гадзіны абсталяванне было прывезена. Электраманцёр адшукаў у падвале Найдзенку і адразу запытаў:

— Дзе складаць абсталяванне?

— Тут, у падвале, — Пётр Мікітыч следам за электраманцёрам падняўся наверх.

Калі ён падыйшоў да машыны, вочы яго ўчэпіста ўпіваліся ў калонкі, і раптам ён заўважыў на адной з іх напісана крэйдай «цана 256 марак». На сэрцы Найдзенкі зрабілася адразу лягчэй.

У падвале да Пятра Мікітыча падышоў электраманцёр. Гарачы позірк яго выдаваў напружаную думку. Іх позіркі сустрэліся. На якісьці момант Найдзенка застыў у чакаемай паставе.

— Я ведаю, што знаходзіцца ў калонцы з надпісам «цана 256 марак». Узрыўчатку я прывожу вам ужо другі раз. Мы ж славяне і вораг у нас супольны, — электраманцёр падаў Пятру Мікітычу сваю вялікую моцную руку.

Праз 8—10 мінут ішла гутарка паміж Найдзенкам і электраманцёрам Луговічам адкрыта і шчыра.

— Мы ў падвале, пад кватэрай № 6, заложым зарад вялікай сілы і старанна яго замаскуем. Вы, Стась, ад зарада падвядзеце да праводу ванны непрыкметны дрот, падлучыцеся да яго. Фашыст сам сабе ўзарве і цэлы дом на маленькія кавалачкі разляціцца, — у звычайным спакойным тоне выкладаў свой план Пётр Мікітыч.

Стась Луговіч перасягнуў усе яго спадзяванні.

— Падводку я зраблю зараз, пакуль прыдуць рабочыя ўстанаўліваць калонку. На гэты раз я зраблю добра і акуратна. Спадзяюся, пан камендант будзе здаволены, — у Луговіча твар быў пранізаны цвёрдаю мужнасцю і рашучасцю.

Да самага вечара Пётр Мікітыч і Стась Луговіч працавалі ў доме афіцэр-

(Працяг на стар. 7)

ВЕСТКІ з БССР



На здымку: На Мінскім трактарным заводзе. Апошнія дэталі, і гэтыя трактары сыйдуць з канвеера.

# У 50 КРАІНАХ СВЕТУ

З году ў год пашыраюцца знешнеэканамічныя сувязі Беларускай ССР з другімі краінамі свету, бесупынна развіваюцца гандаль, міжнароднае супрацоўніцтва ў галіне тэхнічных, культурных і навуковых сувязей. У 1962 годзе Беларускае таварыства дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі падтрымлівала сяброўскія сувязі з 157 арганізацыямі ў 59 краінах.

За апошнія два гады пастаўка абсталявання і машын з беларускіх прадпрыемстваў павялічылася амаль у два разы. Новымі спажыўцамі беларускіх прамысловых вырабаў сталі: Пакістан, Непал, Тога, Тайланд, Туніс, Судан, Малі, Рэспубліка Кіпр, Мальгашская Рэспубліка. Пашыраецца гандаль з Вялікабрытаніяй, Аргенцінай, Самалі.

Зараз прадпрыемствы Беларусі пастаўляюць усялякага роду абсталяванне, машыны і іншыя вырабы больш чым у 50 краінах свету. Машынабудаўнічыя заводы Беларусі адпраўляюць вялікагрузныя аўтасамазвалы «МАЗ—525», грузападымальнасцю 25 тон, а таксама другія мадэлі аўтамашын, трактары «Беларусь», матацыклы і веласіпеды, звыш 65 тыпаў металарэжучых станкоў, кукурузаўборачныя камбайны, усялякія будаўнічыя і меліярацыйныя машыны, аўтапагрузчыкі, бульдозеры, электрычныя маставыя краны, помпы, розныя радыёвырабы і электравымяральныя прыл[...]ды.

## НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

### ШЧАСЛІВЫЯ АСТРАВЫ?

Сто кіламетраў на захад ад афрыканскага мыса Каво Хуві першы з Канарскіх астравоў — Фуэртэвентура. Верхавіны вулканаў відаць далёка на небакраі. Востраў Гран Канарыя. Акіян у гэтым раёне спакойны, гладкі, быццам люстра. Шырокі ўваход у порт і бялісця кварталы горада, што расцягнуўся ўздоўж берага аж па стромкія схілы вулканаў. Цудоўны краявід!

Лас-Пальмас не з'яўляецца прыгожым горадам; не мае ён той чароўнасці характэрнай гарадам паўднёвых краін. Няма тут арыгінальнай, экзатычнай архітэктуры і цікавых будоўляў апрача даўняга касцёла з XVI ст. і музея Калумба, аб якім больш нагавораць, чымсьці пакажуць. Затое ёсць сіняе неба, гарачае сонца і незвычайная прырода. На цэнтральнай вуліцы шэрыя будыніны абчэпленыя неонавымі рэкламамі. Іспанскія архітэктары не выкарысталі буйнай расліннасці, каб распланаваць хаця б клумбы, не гаворачы пра паркі!

Вада з'ўляецца тут першай патрэбай. Таму важнейшымі за ўсё лічацца будовы новых вадасховішчаў і ірыгацыйных каналаў. Ніводная кропля вады з горных ручаёў не павінна працячы ў акіян! Без яе пасохлі б велізарныя банановыя плантацыі — падстава эканомікі Канарскіх астравоў. Вось, і на Гран Канарыі непадзельна цараць бананы ды... памешчыкі. Да трыццаці багацеяў належыць амаль увесь востраў! Уладаюць яны пышнымі дачамі над залацістымі пляжамі, і дачамі, якія знаходзяцца абавязкова высока ў горах, куды багатыя ўцякаюць перад летняй спёкаю ў нізінах. Да іх належаць таксама камфартабельныя гасцініцы прызначаныя толькі для загранічных турыстаў — амерыканцаў, англічан, немцаў. У «Санта Каталіна» або «Метраполі» суткі каштуюць 2.200 пезет. Для параўнання падаю, што работнік на плантацыі зарабляе ў дзень сорак пезет, шафёр — 60 пезет. Дык за што плацяць англічане, немцы, амерыканцы? Перад усім, за райскі клімат, ну, і... выгоду створаную толькі ім!

Народ жыве ў страшэнных умовах! Старыя развалiны — норы, землянкі, пячоры выдаўбаныя ў скале. Рэдка дзе красуецца прыемны, аднасямейны домік — тых заможнейшых. Верце або не верце, але нідзе не ўгледзіш жалезнага плуга — усюды аруць сахою.

Усё ж галеча на Канарскіх астравах не ёсць настолькі дакучлівай, як у самай Іспаніі. Паратунак дае надзвычайны клімат і ўраджайная чырвоная зямля, на якой можна вырасціць любую культуру, — апельсіны, лімоны, памідоры, міндалевыя дрэвы, фінікавыя пальмы, абрыкосы і персікі, тытунь і цукровы трыснёг. Збор пладоў адбываецца па некалькі разоў у год, а бананы пладаносяць безупынку. Завезлі іх сюды нядаўна, сорак год таму назад, Англічане!...

а-ся

### АПОВЕСЦЬ АБ ТЫМ, ЯК РЫБУ ЛОВЯЦЬ РЫДЛЁЎКАМІ

Самым арыгінальным спосабам лоўлі рыбы карыстаюцца індыйскія сяляне. Каб паспытаць смажаной рыбкі, ім неабавязкова рабіць лодку, ставіць парус і выходзіць у адкрытае мора.

Можна нават не вязаць ніводнай сеткі і не купляць ніводнага кручка. Зусім дастаткова будзе адной самай звычайнай рыдлёўкі.

Узброіўшыся гэтай снасцю, селянін выходзіць у поле, выбірае найбольш нізкае месца і пачынае... капаць зямлю. Не думайце, калі ласка, пра яго чаго-небудзь благога і не рабіце іншых скараспелых высноў, бо ўжо праз пяць хвілін вам прыйдзецца пашкадаваць аб гэтым.

На вашых вачах індыец пачне адну за другой выкопваць з зямлі жывых рыбін даволі значных памераў. Завуцца яны анабасамі і сярод мясцовага насельніцтва карыстаюцца вялікай папулярнасцю і нават павагай.

І сапраўды, рыба анабас не зусім падобная на іншых сваіх падводных сабратаў. Па-першае, яна можа хадзіць па зямлі. Калі ў засушлівую пару года мелкія вадаёмы перасыхаюць да дна, анабас вылазіць на бераг і адпраўляецца ў пошукі новага прыстанішча.

Калі ж нічога падыходзячага паблізу не знойдзецца, анабас зарываецца ў глей на дне перасохшай сажалкі і чакае там, пакуль дажджы зноў не напоўняць вадаём.

Мясцовыя жыхары добра вывучылі паводзіны дзіўнай рыбіны і выкопваюць яе з глею сотнямі штук.

### ДЗЕ НАЙБОЛЬШ ГУБЛЯЮЦЬ?

Аказваецца — у Японіі. На японскіх жалезных дарогах у мінулым годзе падарожныя пакінулі 1 мільён 800 тыс. прадметаў — між інш. 310 тыс. парасонаў, 180 тыс кніжак, 25 тыс. гадзіннікаў, а нават 4 урны з прахам памершых. Толькі 15% знойдзеных рэчаў вяртаецца да ўласнікаў, рэшту, так як ніхто па іх не звяртаецца, прадаюць на ліцытацыі.

(вл)

# Гіпертанія

Відаць, многім даводзілася чуць пра гэта захворванне. Некаторыя лічаць, што гіпертанія бывае галоўным чынам у людзей 40—60 гадоў. Але гэта не так. Гіпертанія можа развіцца і ў больш маладых людзей і, наадварот, адсутнічаць у людзей, якія дасягнулі сто і больш гадоў. Часцей за ўсё гіпертанія ўзнікне на глебе неўрозу, перанапружання некаторых аддзелаў нервовай сістэмы. Развіццю хваробы нярэдка садзейнічае і звышчасовая работа, начная праца на працягу доўгага часу, а таксама розныя нервовыя траўмы, сур'ёзныя канфлікты, звязаныя з побытам чалавека.

Гіпертанія, як правіла, раптоўна не ўзнікае. Ёй папярэднічае так званы неўроз сасудаў, гэта значыць іх гатоўнасць на любое нервова-псіхічнае ўзбуджэнне адказваць павышэннем артэрыяльнага ціску.

Таму надзвычай важна своечасова выявіць сасудзістыя неўрозы. Тады, прыняўшы супакойвальныя сродкі, напрыклад, бром у розных спалучэннях, можна змяніць, зменшыць рэакцыю нервовай сістэмы. Добра дапамагае адпачынак, працяглы сон, гімнастыка, розныя водныя працэдуры.

Людзям, у якіх неўроз, абавязкова трэба кінуць курыць, не ўжываць алкаголь, прыняць усе меры да таго, каб пазбегнуць нервовага перанапружвання.

Для папярэджання гіпертаніі і яе лячэння вялікае значэнне мае рэжым працы і адпачынку. Тым, хто заняты разумовай працай, у сярэдзіне рабочага дня неабходна паўза на 0,5 — 1 гадзіну, абавязкова захаванне адпачынку ў выхадны дзень.

Сон павінен працягвацца не менш чым 8—10 гадзін у суткі. Тым, хто хварэе бяссоніцай, можна рэкамендаваць прагулкі перад сном, прыём ежы за 2 1/2 — 3 гадзіны да сну, адмовіцца ад чытання літаратуры ў ложку. Добра дапамагае ванна або душ з тэмпературай вады 24—37°.

На ўсіх этапах гіпертанічнай хваробы вялікае месца трэба адвесці лячэбнай гімнастыцы і розным відам спорту, знаходжанню на свежым паветры, разумнаму загартоўванню арганізма.

### НАГАМІ ПА МОРЫ

Так будзе выглядаць сухая дарога з Францыі ў Англію праз канал Ля-Манш. Праект прадбачвае збудаванне 2 мастоў на абодвух берагах канала. Масты злучаць тунель даўжынёй 7 км. І можна будзе па моры пяшочкам хадзіць. (вл)



 




## Папраўка

Міліцыя арыштавала сына за хуліганства. Маці кажа:

— Згубіла цябе, сынок, гэта чвэртка.

Сын адказвае:

— Не, мама, не чвэртка мяне згубіла, а паўлітра.

Прыслаў **Хомік**



## Палічыў

Настаўнік да вучня:

— Палічы ты мне да дзесяці.

— Вучань:

— 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10. далей: валет, дама, кароль...

Прыслаў

**Уладзімір Красоўскі**



## Кемлівы

Афіцэр да кандыдата ў афіцэрскую школу:

— Які вы дасце загад вашым салдатам, калі знойдзецеся ў акружэнні?

Той, падумаўшы:

— Падрыхтавацца на той свет!

Прыслаў

**Аляксандр Харкевіч**



## Вытлумачыла

Яны пажаніліся не ведаючы адзін другога. Праз тры месяцы жонка нарадзіла сына.

— Усе жанчыны родзяць праз дзевяць месяцаў, а ты нарадзіла праз тры! — абураецца муж.

— Але ты перш палічы, тады сварыся, — тлумачыць яму жонка. — Колькі часу прайшло ад нашага шлюбу?

— Тры месяцы.

— Колькі часу прайшло як мы з табой жывем?

— Тры месяцы.

— Колькі часу прайшло як нарадзіўся наш сын?

— Тры месяцы.

— Ну, а разам?

— Праўда, дзевяць месяцаў! — усклікнуў узрадаваны муж. — Прабач, мая дарагая!

Прыслала

**Ірэна Цэкала**

## ДУМКІ ЯСЬКІ АПАЛОНІКА

**Добра пад'еўшы лягчэй думаць. Галодныя думкі бываюць надта цяжкія.**

✲

**На грошах нават доктар бруду не дасцерагае.**

✲

**Пасаг п'яніцу на ногі не паставіць.**

✲

**Сусед суседа цераз мяжу не бачыць.**

✲

**У малачарні ніколі няма недахопаў, бо маюць каго даіць.**

## Сакрэтны

— Коля, ты ўмееш захоўваць сакрэты?

— Вядома! Але ўся бяда ў тым, што сябры, якім я іх расказваю, не ўмеюць захоўваць сакрэтаў.

Прыслаў

**Уладзімір Гурын**

## БАЦЬКІ і ДЗЕЦІ

Аднойчы напрадвесні
Выпадак быў такі у лесе:
Сярод густых бяроз
З Драздзіхай пасяліўся Дрозд.
І ўжо не дзіва, што праз год
Народзіны ў Дразда
Гуляў пярнаты род.
Расце сынок,
Дужэе,
Прыгажэе,
Запасы бацькавы пачаў
збываць на бок
Лайдак і абібок.
А калі крыху апярыўся,
На Канарэйцы ажаніўся.
Драздзёнку стала цесна ў хаце,
І ён,
Парушыўшы ў сям'і закон,
Нягледзячы на слёзы маці,
Прагнаў бацькоў
з сялібы вон.

Ў такой бядзе
ніхто не вінаваты,
А толькі самі
мамы й таты.

**Сяргей ХРАМЯНКОЎ**



**— Вось так думаю, татка, што горшае для мужчыны: вайсковая служба ці шлюбнае жыццё?**



# УСПАМІНЫ

Зразумела, ніхто, нават наш міліцыянер, не дагадваецца, аб чым я думаю. Перад чытачамі я не скрываюся: думаю над нашымі грамадзянамі. Здзіўляюча змяніўся народ, раскапрызіўся, распесціўся і шматлікія грамадзяне Іванаў Івановічаў з сябе строяць.

Думкі гэтыя выкапаў я з газеты «Жыццё Варшавы». Люблю разгарнуць цэнтральны друк і пачытаць, чым людзі дыхаюць у вялікіх гарадах, ды на які бок паварочваецца сусветная палітыка.

І так наткнуўся я на пісьмо чытача. Невядомы мне працоўны пытае рэдакцыю, ці мае права ўстанова пасылаць працаўніка ў камандзіроўку ноччу, аплачваючы праезд у спальным вагоне.

Начная язда адбіваецца на псіхіцы гэтага грамадзяніна. Курачаму сыну, нявыгадна ў спальным вагоне!

У час акупацыі людзі ездзілі ў цялячых цяплушках. На кожнай станцыі прытайваліся зайцамі. Ад чужой гутаркі хапаліся за сэрца. Чалавек адчуваў сябе шчаслівым, калі здабыў на абед кароўі хвост.

А сёння?

Ад чыстай пасцелі на рысорах адварочваюцца працоўныя. Капрызяць людзі ў мясной краме. На суп дамагаюцца грудзінку, на смажаніну — паляндвіцу, ды ў дадатак хацелі б камара з рагамі.

Сёняшнія грамадзяне строяць з сябе капіталістаў. Ашчадныя кніжкі завялі. Мотаспортам займаюцца. У наваГоднюю ноч плацілі па тысячу злотых за столікі ў рэстаранах і, нягледзячы на так дарагую цану, ніхто выходзячы століка не забраў.

У вёсках таксама людзі круцяць носам. Калісьці ў хатах уздоўж сцен цягнуліся лаўкі. Покут быў. На вокнах віселі вышытыя ручнікі. Святочнага дня чакалі новыя лапці.

А сёння?

Вясковыя жыхары цягнуць з горада модную мэблю. Вокны завешваюць гардзінамі. Дзяцей возяць у калясачках. Дзеда, які ўмее лапці плясці, можна прадаць у музей. Бабанькі ў магазінах крытыкуюць мануфактуру. То ім узор не падабаецца, то колер не падыходзіць.

Бывала, гаспадар купляючы касу, пальцам яе прабаваў. Удараючы па касе, прыслухоўваўся да звону сталі. Цяпер людзі адварочваюцца ад кос. Падавай ім сенакасілку, жняярку, снапавязалку і ледзь ні чорта ў пудэлачку. Саламянымі стрэхамі грэбуюць, крыюць дахі этэрнітам ды бляхай.

Няма чаго наводзіць цень на ясны дзень, распесціўся народ ды і толькі. Грамадзяне глядзяць наперад, а назад не аглядаюцца. Ці не ў гэтым мудрасць людская? Мінулае наша журботнае і не варта яго ўспамінаць?

Праўда як аса лезе ў вочы: калі мінулае не ўспомнім — цяперашняга не дацэнім.

*Дзядзька Лявон*

## АДКАЗАЛА

— Я чула, што вы хочаце замяніць сваю кватэру. Вы ж ужо два гады там жылі... Ці што здарылася? — пытае суседку.

— Не, нічога, толькі мой муж думаў у суботу выкупацца і аказалася, што ў нашай кватэры няма ванны.

●

## АДПЛАТА

Селянін выцягнуў з вады зубнога лекара, які тапіўся.

— Дарагі чалавеча, як жа табе аддзякаваць за дабрату? Прыходзь да мяне, я табе ўсе зубы без чаргі павырываю.

С. Ю.

**ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ**

**По просьбе Любы і Гені Мінько з Траспянкі, Гайнаўскага павета, змяшчаем папулярную украінскую песню**

# ВЕРХАВІНА



**Я трембітоньку заграю,
Заграю, загуду,
З своім милим рідним краем
Розмову поведу.
Верховино, мати моя,
Вся краса чудова твоя (2)
У мене на виду.
Дана, шіді річка, дана, дана, (2)
Вся краса чудова твоя
У мене на виду. (2)**

**Стелиться туман над звором,
Лягае на груні,
За горами далі-гори,
Синіють вдалині.
А над ними хмари плинуть,
Наче вівці в полонині (2)
Пасуться навесні.
Дана, шіді річка, дана, дана,(2)
Наче вівці в полонині
Пасуться навесні. (2)**

**Хвілюеться у долинах
Пшениця золота,
Спів заводів в полонину
До мене доліта.
Верховино, мій ти краю,
Хто твої тепер пізнае (2)
І села, і міста?
Дана, шіді річка, дана, дана, (2)
Хто тепер твої пізнае
І села, і міста? (2)**

**Я сміюсь на повні груди,
Радію, мов дитя, —
Перетворюють в нас люди
І край свій і життя.
З високої полонини
Бачу твое, Верховино,
Бачу, рідна Верховино,
Щасливе майбуття!
Дана, шіді річка, дана, дана, (2)
Бачу твое, Верховино,
Щасливе майбуття! (2)**

## РАЗВІЦЦЁ КАСМАНАЎТЫКІ



РАНЕЙ — СЁННЯ — ЗА НЕКАЛЬКІ ГОД

 